**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 37 (1066) 10 верасня 2020 года.**
**Кошт свабодны.**

**Штотыднёвая газета**

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

**vglybokaye.by**

**Верасень – вельмі адметны перыяд у жыцці нашай краіны. Вялікая частка жыхароў Беларусі – працаўнікі сельгаспрадпрыемстваў і іх шэфы, уладальнікі прыватных сядзіб, студэнты і навучэнцы школ і ПТВ, занятыя адным – уборкай ураджаю бульбы, якую клічуць «другім хлебам».**



**Ва ўсіх паштовых аддзяленнях Віцебскай вобласці можна выпісаць газету "Вольнае Глыбокае" на 2-е паўгоддзе 2020 г.**



ISSN 2077-8023
9 772077 802009 20037

## Полацкі раён

# Народ – гэта сіла

■ Станіслаў Раманчук.

**Увесь свет пераканаўся, што ўпершыню ў айчыннай гісторыі вельмі шмат беларусаў і працоўных калектываў не згадзіліся з вынікамі выбараў, сталі пратэставаць супраць насілля**. Сваю салідарнасць з людзьмі і асуджэнне жорсткіх дзеянняў сілавікоў над мірнымі дэманстрантамі выказалі ў калектыўным звароце 240 віцебскіх медыкаў. Амаль паўтысячы чыгуначнікаў з абласнога цэнтра адкрыта запатрабавалі адстаўкі А. Лукашэнкі і яго вернай паплечніцы па фальсіфікацыі выбараў Л. Ярмошынай. Дайшло да неверагоднага, што двое супрацоўнікаў дзяржаўнай ТРК "Віцебск" выйшлі на забастоўку, а дзясяткі супрацоўнікаў мясцовых СМІ падпісалі калектыўны зварот у Міністэрства інфармацыі Беларусі супраць пануючай цэнзуры і аднабокага асвятлення бягучых падзей. Найбольшы ж непакой не толькі абласнога начальства, але і кіраўніцтва краіны выклікала сітуацыя на прамысловым гіганце, нафтаперапрацоўчым заводзе "Нафтан" у Наваполацку. Трэцяя частка работнікаў з амаль 10-тысячнага калектыву адкрыта заявіла, што не мае даверу да дзеючай улады. Працаўнікі нафтаграда не толькі заявілі аб непрызнанні вынікаў гэтых псеўдавыбараў, але і сталі абурацца, што ім страшна стала выходзіць на вуліцы, страшна выказваць сваю пазіцыю і адстойваць свой выбар. Усё гэта абураныя завадчане давялі на сустрэчы з экс-генералам КДБ І. Церцелем, які ўзначаліў КДК Беларусі. Пад зваротам за адстаўку Лукашэнкі падпісаліся 3238 чалавек у цэхах завода. А вось афіцыйныя прафсаюзы з гэтым дакументам не пагадзіліся. З-за асаблівасцей тэхналагічных працэсаў немагчыма спыніць вытворчы працэс на самім НПЗ, бо інакш можа адбыцца буйная хімічная катастрофа.

## Шаркоўшынскі раён

# Праўда вочы коле

■ Чэслаў Якубовіч

**Вартымі жалю і спачування сталі не надта шматлюдныя вячэрнія праўладныя мітынгі ў рэгіёнах**.

Шмат людзей, найперш бюджэтнікаў прымушаюць туды ісці пад пагрозай страты працы, хоць і пераканалых лукашыстаў сярод мітынгуючых можна сустрэць. Аднак калі на такіх акцыях даюць выказацца жадаючым, перыядычна на мітынгах "Я-батька" здараюцца перакосы ў іншы бок, як гэта адбылося днямі ў Шаркаўшчыне, адным з самых бедных раёнаў краіны. Там бадзёры характар сустрэчы ля будынка райвыканкама пад чырвона-зялёнымі сцягамі ўзарваў выступ 34-гадовага прадпрымальніка, уладальніка швейнай фабрыкі ля гарпасёлка Вадзіма Рылава. Чалавек у гэтай мясцовасці паважаны, у мінулым афіцэр, які 10 гадоў адслужыў у органах МНС. Ён не мог стрымацца, калі землякі сталі рваць глотку за Лукашэнку, ведаючы, якія былі махінацыі з падлікам галасоў на выбарах. Мужны чалавек прама заявіў, што не трэба дзяліць грамадства на сваіх і "чужых". Аднак асабліва мясцовых чыноўнікаў у першых радах сталі моцна абурацца, калі Вадзім загаварыў аб жорсткім абыходжанні з людзьмі, масавых пабоях і катаваннях, як у засценках гестапа. Прамоўца сказаў, што ні за што пацярпела адна яго знаёмая з Полацка, на што адна з супрацоўніц райвыканкама абазвала жанчыну "прастытуткай". Яшчэ шэраг чыноўнікаў сталі патрабаваць ад выступаючага сысці з трыбуны. Але іншыя землякі, чалавек дзесяць з гэтым не пагадзіліся і прасілі прадаўжаць прамову. У прамоўцы, веруючага чалавека на вачах нават выступілі слёзы, бачачы такую палярызацыю грамадства. Асудзілі такі ўчынак свайго земляка адзінкі. Большасць жа шаркаўшчан яму дзякуюць за чэсную грамадзянскую пазіцыю і што не пабаяўся сказаць землякам праўду аб падзеях на нашай зямлі.

## Віцебск

# Нязгодных – за краты

■ Кастусь Александровіч.

**Масавыя акцыі абураных беларусаў толькі спачатку застрашылі ўлады, а затым усё вярнулася да праверанай рэпрэсіўнай практыкі.**

Ніхто і на Віцебшчыне не думаў разбірацца з сілавікамі, якія груба затрымлівалі і збівалі 700 чалавек. Пазбегнуць адказнасці асобы, якія нахабным чынам махлявалі на выбарчых участках. Як толькі з цэнтра паступіла каманда разабрацца з усімі "крысамі", хапун на вуліцах прадоўжыўся. Марш за новую Беларусь у абласным цэнтры з барабанным боем і "незаконнай" бел-чырвона-белай сімволікай атрымаўся шматтысячным, а затрыманні пачаліся пазней. Удзельнікаў шэсця сілавікі ў масках здымалі на відэа, каб пазней вылічыць сваіх "кліентаў". Вечарам таго ж дня ў родным горадзе прапаў сталічны акцёр Іван Сладкевіч. Ён працуе ў Мінску ў трупе Новага драматычнага тэатра, а падчас адпачынку прыехаў да родных. Яго разам з яшчэ двума сябрамі на адной з вуліц затрымалі пяцёра міліцыянераў у цывільным. Адзін з вартавых праваапарадку так расвірапеў, што ўдарыў артыста нагой у жывот. Пасля ночы ў КПЗ суд пакараў акцёра 7 суткамі адміністрацыйнага арышту за ўдзел у несанкцыянаваным шэсці. Можна не сумнявацца, што далей улады будуць яшчэ больш сурова караць усіх, хто выйдзе на "мірныя акцыі", звальняць з працы найбольш незадаволеных вынікамі выбараў. Яны ўжо адкрыта пагражаюць, што за ўдзел у масавых хваляваннях можна пазбавіцца волі тэрмінам да 8 гадоў.

# КАРАНАВІРУСАМ І МАСАВЫМІ ПРАТЭСТАМІ ЎЖО СПРАБУЮЦЬ УЛАДЫ БЕЛАРУСІ ПАТЛУМАЧЫЦЬ НЕПАЗБЕЖНЫЯ ЭКАНАМІЧНЫЯ ЦЯЖКАСЦІ, ПАДЗЕННЕ ЎЗРОЎНЮ ЖЫЦЦЯ



**Глава дзяржавы адмаўляўся ад тэлефонных перамоў з еўрапейскімі лідарамі, толькі з Пуціным амаль штодзень сазваньваўся, напэўна, прасіў дапамагчы. А як інакш, калі цяпер рэзка пачала слабець наша нацвалюта, а цэны на тавары сталі адчувальна расці, асабліва ў інтэрнэтмагазінах, бо за долар там давалі ўжо па 2,8 рубля. Знешні ж дзяржаўны доўг Беларусі з пачатку года вырас яшчэ на 5,3 % і дасягнуў 18 млрд. долараў. амаль 2,6 млрд. USD.**

■ Аляксандр Цішкевіч.

Толькі апошняму дурню, прабачце за такое параўнанне, напрыканцы лета было незразумела, з-за чаго так моцна накалілася ў Беларусі абстаноўка. Пратэстны настрой ў грамадстве адчуваўся яшчэ падчас выбарчай кампаніі, а аб'яўленыя фальшывыя вынікі (зноў за 80 %) перамогі нязменнага правіцеля абурылі практычна ўсё грамадства ад сталіцы да ўскраін. Народ пайшоў на вуліцы, нягледзячы на катаванні і вадамёты з гранатамі. Было забіта мінімум 6 чалавек, сотні аказаліся цяжка паранены і прапалі без звестак. Усяго за краты кінулі каля 7000 беларусаў, але гэта не спыніла хвалю народнага абурэння.

Прайшло паўмесяца, а пратэсты супраць вынікаў псеўдавыбараў працягваліся, на шэрагу прадпрыемстваў пачаліся забастоўкі розных ступеняў інтэнсіўнасці. У перадапошнюю нядзелю жніўня Мінск нагадваў прыфрантавы горад з вялікай колькасці сілавікоў, арміі, спецтэхнікі і аўтазакаў. Але людзей запалохванні не спынілі. На вуліцы беларускай сталіцы выйшлі да чвэрць мільёна чалавек з адзіным патрабаваннем адстаўкі Лукашэнкі і правядзення новых сумленных выбараў. Раззлаваны дыктатар абазваў людзей "крысамі" і каля сваёй рэзідэнцыі вылез з верталёта ў бронекамізэльцы з аўтаматам і даў у рукі зброю свайму малодшаму непаўнагадоваму сыну, народжанаму па-за шлюбам.

Яшчэ раней гэты галоўны начальнік у запале абяцаў, што нават калі стане мёртвым, не дазволіць аддаць краіну! Тым часам экскандыдат у прэзідэнты, а магчыма і фактычны пераможца гэтых выбараў, Святлана Ціханоўская на выдатнай англійскай мове сказала па відэасувязі дэпутатам Еўрапарламента, што пратэстуючыя беларусы не адступяцца ад сваіх патрабаванняў аб новых выбарах. Гэта мужная і абаяльная жанчына заявіла, што мы больш не з'яўляемся апазіцыяй, а прадстаўляем большасць. Усе гэтыя пратэсты, па яе словах, не маюць геапалітычнай афарбоўкі, гэта – мірная рэвалюцыя, а дасягнуць кампрамісу спадзяёмся шляхам дыялогу.

У гэтым годзе драйверам масавых пратэстаў сталі нашы жанчыны ў белым адзенні, якія спынілі першую хвалю насілля. Апазіцыя хоча вярнуць старую Канстытуцыю, а створаная ёй Каардынацыйная рада была прызнана ледзь ці не крымінальнай арганізацыяй для захопу ўлады. На жаль, на пошук паразумення замшэлая ўлада ісці не хацела, а толькі гразіла з усімі разабрацца, закрыць бастуючыя прадпрыемствы і выгнаць адсюль з працы ўсіх незадаволеных і нават настаўнікаў, якія не падзяляюць дзяржаўную ідэалогію. Апазіцыянеры сталі дабівацца правядзення рэспубліканскага рэферэндуму, адстаўкі кіраўніцтва міліцэйскага міністэрства і пачатку працэдуры адклікання дэпутаў парламента і мясцовых Саветаў.

Міжволі наша краіна апынулася ў цэнтры сусветнай ўвагі, а на дапамогу загнанаму ў кут А. Лукашэнку паспяшыла пуцінскае акружэнне. З дапамогай іх паліттэхнолагаў нарадзілася псеўдаакцыя "Я-батька" з пэўным вульгарным адценнем. Адзінае добра, што рускія не пасылалі да нас для разгону пратэстаў свой паліцэйскі спецназ і ваенных. А вось ЕС зрабіў правільны выбар, не прызнаў вынікі гэтых выбараў і ўзмацніў ціск на афіцыйны Мінск. Ва ўладаў нічога не засталося, як працягваць ціснуць і застрашваць беларусаў, з-за чаго бліжэйшае будучае нашай краіны заставалася туманным і, хутчэй усяго, даволі змрочным.

Глава дзяржавы адмаўляўся ад тэлефонных перамоў з еўрапейскімі лідарамі, толькі з Пуціным амаль штодзень сазваньваўся, напэўна, прасіў дапамагчы. А як інакш, калі цяпер рэзка пачала слабець наша нацвалюта, а цэны на тавары сталі адчувальна расці, асабліва ў інтэрнэтмагазінах, бо за долар там давалі ўжо па 2,8 рубля. Знешні ж дзяржаўны доўг Беларусі з пачатку года вырас яшчэ на 5,3 % і дасягнуў 18 млрд. долараў. Унутраных даўгоў яшчэ больш, а замежным партнёрам сёлета трэба вярнуць амаль 2,6 млрд. USD. З улікам апошніх падзей займаць за граніцай новыя пазыкі ўжо будзе немагчыма.

Увогуле для правячага рэжыма, а затым і для кожнага з нас, наступаюць няпростыя часы наперадзе. Ужо намецілася і пачалася дэвальвацыя беларускага рубля. Услед за гэтым пачнецца рост цэн, што заўважаюць радавыя спажыўцы. Таксама рэспубліканскі і мясцовыя бюджэты сёлета выконваюцца цяжка, яны будуць моцна дэфіцытнымі. Разумеючы гэта, А. Лукашэнка правёў спецыяльную нараду, каб пазбегнуць складанасцей з выплатамі чарговых пенсій і заробкаў бюджэтнікам. Нягледзячы на розныя рыторыку, у Крамлі цвяроза глядзяць на нашы падзеі, а пуцінскі прэс-сакратар Д. Пяскоў вітаў намеры Каардынацыйнай рады аб прадаўжэнні ўзаемна карыснага супрацоўніцтва з Расіяй.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5.ru

| | Чацвер 10.09.20 | | | | Пятніца 11.09.20 | | | | Субота 12.09.20 | | | | Нядзеля 13.09.20 | | | | Пд.14 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +14 | +14 | +17 | +11 | +8 | +9 | +15 | +11 | +10 | +10 | +17 | +11 | +11 | +12 | +17 | +14 | +13 |
| Ціск | 742 | 740 | 741 | 744 | 747 | 749 | 749 | 750 | 751 | 752 | 751 | 750 | 749 | 750 | 750 | 747 | 744 |
| Вецер м/сек | 6 | 7 | 9 | 6 | 4 | 4 | 5 | 4 | 3 | 4 | 6 | 4 | 6 | 5 | 5 | 5 | 8 |
| | Пд-З | З | З | З | З | З | З | З | З | Пд-З | Пд-З | Пд-З | Пд-З | Пд-З | З | Пд-З | Пд-З |
| Вільготнасць | 95 | 98 | 60 | 79 | 93 | 84 | 72 | 82 | 93 | 88 | 59 | 80 | 85 | 90 | 69 | 90 | 85 |

# Беларусь паставіла рэкорд па колькасці смерцяў. Калі б не ААН, мы б гэтага не пазналі

■ **Наша Ніва**

**У адрозненне ад мінулых гадоў, статыстыка смяротнасці не была апублікаваная ў Беларусі, аднак прыгэтым дадзеную інфармацыю ў звычайным парадку перадалі ААН, якая і апублікавала яе.**

Лічбы шакіруюць.

У чэрвені 2020 рост смяротнасці супраць мінулага чэрвеня склаў 3753 чалавекі.

У траўні 2020 рост смяротнасці супраць мінулага мая склаў 1309 чалавек.



У красавіку 2020 года рост смяротнасці супраць мінулага красавіка склаў 543 чалавекі.

У студзені-сакавіку ў цэлым паказчыкі адпавядаюць паказчыкам гадоў з нізкім узроўнем захворвання на грып і ВРВІ, які адзначаўся гэтай зімой. Але лічбы смяротнасці ў траўні-чэрвені абсалютна беспрэцэдэнтныя. Такіх не назіралася ні разу за ўсе часы, пакуль на сайце ААН вядзецца падрабязная статыстыка - з 1980 года.

Зыходзячы з гэтых лічбаў, смяротнасць за красавік-чэрвень перавысіла сярэднюю за апошнія 5 гадоў прыкладна на 5500 чалавек. Верагодна, гэта і ёсць рэальны вынік каранавіруса ў нашай краіне, піша «Наша Ніва».

Ён жудасны: сувымерны з краінамі і рэгіёнамі свету, дзе ўдар Covid-19 быў горшым.

Па афіцыйных дадзеных, па стане на 30 чэрвеня ад Кавіда ў Беларусі памерла толькі 398 пацыентаў - амаль у 14 разоў менш, чым прырост статыстыкі смяротнасці за красавік-чэрвень.

Па тых жа афіцыйных дадзеных, ад 1 ліпеня да сённяшняга дня памерла яшчэ 307 пацыентаў ад Кавіда.

Статыстыка смяротнасці ад Кавіда, як і статыстыка пнеўманій па асобных раёнах і бальніцах засакрэчаная ад красавіка. Ва ўсіх іншых еўрапейскіх краінах статыстыка Кавіда не была засакрэчаная. У большасці еўрапейскіх краін каранцінныя меры па Кавідзе былі нашмат стражэй, што стала тэмай для вялікай палемікі ў нашай краіне.

## Дзень за днём

**У Беларусі ўжо звыш 70 тысяч выпадкаў каранавіруса, зноў рост захварэўшых. Пачалі расці курсы валют і цэны. Другую хвалю Covid-19 чакаюць у лістападзе-снежні. Пасля выбараў у Беларусі сталі прападаць людзі, знаходзіць загінуўшых. На марш новай Беларусі ў Мінску выйшла 250 тысяч людзей. Рызыка страты суверэнітэту рэзка ўзрасла. Палітычны крызіс балюча ўдарыў па айчынай эканоміцы. А. Лукашэнка запатрабаваў, каб у школах не было настаўнікаў, хто супраць дзяржідэалогіі. Сарвалі трансляцыю па радыё імшы з касцёла ў Мінску. Святы сінод РПЦ прыняў адстаўку Мітрапаліта Паўла.**

# Важнейшыя навіны свету

**Швейцарыя.** Глава СААЗ Т. Гебрэйсус заявіў, што пандэмія каранавіруса завершыцца менеі чым за 2 гады, яна будзе карацей эпідэміі іспанскага грыпу 1918-1920 гадоў.

**ФРГ.** З павышанымі мерамі бяспекі клініка "Шарытэ" прыняла на лячэнне атраўленага галоўнага расійскага апазіцыянера А. Навальнага, яму прапануюць палітычны прытулак.

**Бельгія.** Генсек НАТО Й. Столтэнберг заявіў, што альянс далучыўся да групы краін, якія патрабуюць ад Расіі правесці поўнае расследванне атраўлення палітыка А. Навальнага.

**ЗША.** З'езд Рэспубліканскай партыі аднагалосна вылучыў зноў Д. Трампа на пасаду прэзідэнта, ён абвінавачыў дэмакратаў у намеры "скрасці выбары" ў аўторак 3 лістапада.

**Расія.** Кампанія "Газпрам" заявіла, што сёлета з мая рост запазычанасці з боку Беларусі амаль падвоіўся за пастаўлены газ, доўг стаў перавышаць 300 млн. долараў.

**Украіна.** Прэзідэнт У. Зяленскі заявіў, што на месцы Лукашэнкі правёў бы новыя выбары, каб супакоіць людзей і развеяць сумненні ў наяўнасці фальсіфікацый падчас кампаніі.

**Польшча.** Прэм'ер-міністр М. Маравецкі заявіў, што для беларусаў будзе спрошчаны ўезд у краіну на работу і на вучобу, пра падобныя крокі раней заявіла і суседняя Літва.

**ФРГ.** Глава МЗС Х. Маас заявіў, што пасля масавых пратэстаў Лукашэнка павінен прызнаць рэальнасць на вуліцах сваёй краіны, у галовах беларусаў, выбары ЕС не прызнае

**Латвія.** Глава МУС С. Гіргенс асудзіў масавыя рэпрэсіі ў Беларусі і запрасіў пацярпелыя беларускія кампаніі, асабліва з IT-сферы, пераехаць і пачаць працу ў ягокраіне.

**Францыя.** "Дзіўнай і пагрозлівай пастаноўкай" назвала МЗС з'яўленне Лукашэнкі з сынам на публіцы з аўтаматамі ў бронекамізэльках, ціск на афіцыйны Мінск узмацніцца.

**Літва.** Рэжым Лукашэнкі, як заявіла экс-прэзідэнт Д. Грыбаўскайтэ, павінен быць ізаляваны палітычна і эканамічна за жорсткае прымяненне сілы супраць свайго народа.

**Расія.** На шматлюднай акцыі пратэсту ля пасольства Беларусі ў Маскве спявачка, заслужаная артыстка РБ А. Агурбаш заявіла, што лукашыцкаму рэжыму прыйшоў канец.

**Украіна.** У сувязі з напружанай сітуацыяй прэзідэнт У. Зяленскі прапанаваў спрасціць беларусам уезд у краіну, у цяжкім стане падключылі да апарата ШВЛ Ю. Цімашэнка.

**Сірыя.** Уся краіна засталася без электраэнергіі пасля выбуху пасля тэракту газапровада ў правінцыі Дамаск і спынення працы ўсіх трох дзеючых электрастанцый.

**Фінляндыя.** Прэзідэнт хакейнай асацыяцыі Х. Нуммеля пацвердзіў гатоўнасць правесці ЧС-2021 сумесна з Латвіяй, бо яна хоча перанесці чэмпіянат з Беларусі ў іншую краіну.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Эканаміст С. Чалы заявіў, што дзеючая ўлада вядзе краіну да эканамічнай катастрофы, нас могуць чакаць дэвальвацыя і дэфолт, страта рэпутацыі і інвестараў.

**Гродна.** Работнікі трох філіялаў "Гроднаэнерга" (668 чалавек) заявілі аб непрызнанні вынікаў выбараў, запатрабавалі вызвалення палітвязняў, пакарання садыстаў АМАПа.

**Гомель.** Падчас вынасу смецця міліцыя затрымала настаўніцу І. Барысенка за тое, што актыўна хадзіла на мірныя мітынгі і давала смелыя інтэрв'ю незалежным СМІ.

**Мінск.** Празмернае прымяненне сілы, як папярэдзіў глава БНПА А. Швец, выкліча вялікія эканамічныя праблемы, у народа больш няма даверу да дзеянняў дзяржавы і ўладаў.

**Гродна.** Вечарам на прабежцы садыст АМАПа жорстка збіў і зламаў 4 шыйныя пазванкі былому старшаму трэнеру зборнай РБ па плаванні, майстру спорта П. Сіцянкову.

**Магілёў.** Калектыў абласнога драмтэатра падтрымаў калег з тэатра імя Я. Купалы ў Мінску, запатрабаваў новых выбараў, вызвалення палітвязняў, асудзіў гвалт і насілле.

**Мінск.** Брацць у рукі баявую зброю, як заявіў юрыст Г. Паганяйла, падлетак М. Лукашэнка не меў права, трэба перад выбарамі вышэйшых службовых асоб псіхічна абследваць.

**Брэст.** Кантрольны пакет акцый піваварнай кампаніі "Брэсцкае піва" прадалі з 7-й спробы армянскаму сябру Лукашэнкі Г. Царукяну, сума здзелкі не раскрывалася.

**Целеханы.** У гарпасёлку днём рухнула 30-метровая водонапорная вежа 1991 года пабудовы, без вады засталіся 12 шматкватэрных дамоў і 1600 сем'яў прыватнага сектара.

**Мінск.** У Лукашэнкі на тое, як заявіў палітолаг А. Шрайбман, каб доўга кіраваць у акупацыйным рэжыме, проста няма грошай, лепшы выхад з цяжкога крызісу – дыялог.

**Масты.** Двое сутак не выходзіў з дому жыхар райцэнтра, бо на вуліцы чакала машына міліцыі, яго сталі пераследваць з-за знятага відэа затрымання аўто з беларускім сцягам.

**Жабінка.** Пасля адпявання ў царкве ў райцэнтры пахавалі 44-гадовага Г. Шутава, якога цяжка параніл сілавікі ў Брэсце стрэлам у галаву, пазней ён памёр у шпіталі ў Мінску.

**Жодзіна.** Па месцы работы ў мясцовай турме адсядзеў 3 сутак з прызначаных 7 хлопец, якога ноччу затрымалі ў машыне ў Мінску, са службы звольнілі на наступны дзень.

**Маладзечна.** На гарадскім стадыёне футбалісты, трэнеры і заўзятары мясцовага ФК ушанавалі памяць прапаўшага фаната М. Крыўцова, якога знайшлі павешаным у Мінску.

**Мінск.** Калі ў краіне нічога не зменіцца, як заявіла чэмпіёнка свету па фрыстайле А. Раманоўская, то мая спартыўная кар'ера закончыцца, але чыстае сумленне важней.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Злачынствы і тэрор АМАПа не маюць тэрміну даўнасці, як заявіў вядомы віцебскі ўрач У. Мартаў, каго-каго, а карнікаў і фашыстаў у Беларусі людзі не пацерпяць.

**Наваполацк.** Ноччу на ўчастку № 6 НПЗ "Нафтан" з-за прарыву трубапровада загарэўся серавадарод, пацярпелых не было, перавялі на іншы рэжым 5 вытворчых установак.

**Віцебск.** Улады не стрымалі абяцання не чапаць мірныя акцыі, днём на пікеце затрымалі 6 чалавек, журналіста, выпадковых прахожых, адвезлі ў міліцыю, але толькі папярэдзілі.

**Паставы.** Яшчэ 5 вырабаў малочнага завода (сыры, масла, кефір, смятана) атрымалі дыпломы I і II ступеняў нацыянальнага конкурсу-дэгустацыі "Чэмпіён смаку-2020".

**Мёры.** Упершыню ў Беларусі металапракатны завод заключыў спонсарскі кантракт аб размяшчэнні сваёй рэкламы з сусветна вядомай камандай "Формулы 1" - "Макларэн".

**Новалукомль.** Ганаровы тытул "Прадукт года" атрымалі цёплыя блокі з шумаізаляцыйай мясцовага завода керамзітнага гравію з тэрмінам годнасці звыш 100 гадоў.

**Віцебск.** У буйным мікрараёне Білёва адкрылі новую СШ № 47 з дзвюма басейнамі, толькі першых класаў у ёй набралі 11, заняткі ў дзяцей будуць праходзіць у дзве змены.

**Полацк.** Па праекце рэканструкцыі маста праз Заходнюю Дзвіну завяршылі ўзвядзенне кальцавой развязкі для аўтатранспарту з паркоўкай, пайшло 5 тысяч тон асфальту і бетону.

**Наваполацк.** Ураджэнец горада, глава БФЛА В. Дзевятоўскі заявіў неспадзявана для ўсіх, што Лукашэнка "не мой прэзідэнт", новых выбараў патрабуюць больш 300 суператлетаў.

**Віцебск.** У фае тэлерадыёкампаніі "Віцебск" правялі забастоўку журналіст і галоўны інжынер, яны патрабавалі перавыбараў, вызвалення палітвязняў, суда над садыстамі.

**Ушачы.** Да новага навучальнага года ў Вялікадолецкай СШ імя П. Броўкі ўпершыню сабралі ўраджай з закладзенага вясной аптэкарскага ўчастка, набылі халадзільную камеру.

**Докшыцы.** Ноччу ў вёсцы Дормантава загарэўся драўляны жылы дом, у ім жылі 72-гадовая гаспадыня і 64-гадовы сужыцель, падчас тушэння пажару знайшлі два трупы.

**Віцебск.** Днём пры спробе заскочыць на падножку вагона цягніка, які рухаўся, не ўтрымаўся і ўпаў пад поезд падлетак, яму ампутавала частку нагі, застаўся жывы.

**Лёзна.** На гарадскім стадыёне адкрылі новы крыты трэнажорны комплекс коштам 10 тысяч USD, на чарзе – сучаснае міні-футбольнае поле са штучным газонам для дзяцей.

**Віцебск.** Упершыню мясцовы ФК "Газавік" выйграў Кубак вобласці па футболе, у фінале з лікам 1:0 ён ва ўпартай барацьбе перамог каманду "Дарожнік-Мясакамбінат" (Орша).

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Глыбачане далучыліся да ўсебеларускага «Маршу адзінства»

**Глыбачане сабраліся на цэнтральнай плошчы, дзе спачатку зладзілі карагод і праспявалі беларускія песні. Потым сталі ў ланцуг салідарнасці і прайшліся шэсцем па горадзе пад песні «Перамен» і «Муры».**

Увесь час за пратэстоўцамі сачылі міліцыянты, здымалі людзей на відэакамеру і папярэджвалі пра тое, што акцыя несанкцыянаваная. Побач дзяжурылі супрацоўнікі Глыбоцкай ДАІ і спынялі машыны, якія сігналілі ў знак салідарнасці. Як кажа адзін з удзельнікаў акцыі, пратэстоўцам нават атрымалася дапамагчы аднаму з кіроўцаў:

*– Убачылі, што чорную машыну спыніў «даішнік», і тут заклік быў, усе пагадзіліся і пайшлі ўсім натоўпам туды, каб выручыць гэтага кіроўцу. Супрацоўнік ДАІ гэта ўбачыў, хуценька адпусціў машыну і вярнуўся да сваіх. Мы нават і не паспелі падысці.*

Нягледзячы на пратаколы і суды, якія адбыліся на мінулым тыдні, і ўлічваючы тое, што частка глыбачанаў паехала ў сталіцу, на «Марш адзінства» ў Глыбокім сабралася прыкладна столькі ж людзей, колькі і тыдзень таму. Акцыя адбылася без затрыманняў.

*Паводле Таццяны Смоткінай.*





# Яраслава Берніковіча і Аляксандра Шэлепня пакаралі штрафамі

**Глыбоцкі раённы суд пакараў грамадскіх актывістаў Яраслава Берніковіча і Аляксандра Шэлепня 8 і 10 базавымі велічынямі штрафу адпаведна.**

Іх судзілі па артыкуле 23.34 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях за ўдзел у несанкцыянаваным мітынгу.

Яны бралі ўдзел у маршы міру, які прайшоў у Глыбокім. Падтрымаць актывістаў у будынак суда прыйшлі іх паплечнікі і нават не зусім знаёмыя людзі. Але, як кажа Яраслаў Берніковіч, так атрымалася, што на яго суд ніхто не трапіў:

*– Да мяне на суд не пусцілі. Адмыслова зацягнулі афармленне. Там пашпарт патрэбны. Яны яшчэ ніводнага не запісалі, а ўжо суд закончыўся. Там натоўп прыйшоў, можа чалавек 10.*



Паводле Аляксандра Шэлепня, пасля суда ён пакінуў скаргу на дзеянні і паводзіны суддзі Людмілы Вашчанкі падчас працэсу:

*– Калі адбываўся нада мной суд, то людзей запусцілі. Калі суддзёй мне было прадстаўлена слова, яна мяне перабівала ў грубай форме. Выказаць усё, што я хацеў, яна не дала. Маўляў, вы можаце не спасылацца на нейкія законы і артыкулы, я сама іх ведаю. Мы напісалі скаргу на дзеянне суддзі, якая ў грубай форме парушала мае правы*

У Глыбокім мае адбыцца яшчэ адзін суд над грамадскім актывістам Анатолем Янцэвічам. 1 верасня міліцыянты склалі на яго пратакол таксама па артыкуле 23.34 КаАП. Так паступова ў Глыбокім кропкава складаюцца пратаколы на ўдзельнікаў мірных акцый і чакаюцца новыя суды.

*Паводле Таццяны Смоткінай.*

**Паводле міністра замежных спраў Літвы Лінаса Лінкявічуса, давер да знешняй палітыкі ЕС падарваны адсутнасцю дзеянняў у дачыненні да Беларусі, дзе Брусэлю неабходна заахвочваць дэмакратыю і супрацьстаяць уплыву Расіі.**

# Кіраўнік МЗС Літвы выказаў расчараванне палітыкай ЕС у адносінах да Беларусі

«Часам мы рэагуем занадта позна, і нашы захады фрагментарныя і не робяць ніякага ўражання на грамадства і людзей ва ўладзе», — сказаў Лінкявічус у інтэрв'ю Financial Times. — Калі мы не будзем дакладна выконваць свае нацыянальныя абавязанні, гэта разбурыць наш уласны падмурак».

Лінкявічус падкрэсліў, што Еўропа павінна аказаць «значную і адчувальную» падтрымку беларускай апазіцыі.

Беларускі народ не павінен адчуваць сябе пакінутым. Мы павінны даць яму перспектыву быць сярод дэмакратычных дзяржаў», — дадаў ён

*NN.by*

# ДАВЕДКА аб злачынствах і здарэннях, зарэгістраваных на тэрыторыі Глыбоцкага раёна за перыяд с 27 жніўня по 2 верасня 2020 года:

■ **А. А. Майсяёнак,**
начальнік штаба РАУС.

**Усяго за перыяд з 27 жніўня па 2 верасня 2020 года аператыўна-дзяжурную службу Глыбоцкага РАУС паступіла 80 паведамленняў (заяў) аб учыненых правапарушэннях, з іх аб злачынствах – 11.**

Найбольш значныя:

**27.08.2020** у 09:35 у АДС РАУС паступіла паведамленне грамадзянкі **К.** пра тое, што 2020/08/26 у перыяд з 19:00 да 20:00 гадзін з адкрытай аўтамашыны, якая знаходзілася каля пад'езду дома ў в. Дзеркаўшчына, прапаў кашалёк з грашыма (150 рублёў, 200 даляраў) і мабільны тэлефон. Праводзіцца праверка;

**27.08.2020** у 16:29 у АДС РАУС паступіла заява грамадзяніна **М.,** жыхара в.Дзеркаўшчына пра тое, што 27.08.2020 у 00:07, неўстаноўленая асоба шляхам выкарыстання кампутарнай тэхналогіі з банкаўскай карткі «БПС Сбербанк» выкрала грошы ў суме 1180 рублёў. Праводзіцца праверка;

**27.08.2020** у 16:31 у АДС РАУС паступіла паведамленне ад грамадзяніна **Б.,** жыхара в.Чарневічы аб тым, што ў перыяд з 22:00 26 жніўня да 14:10 27 жніўня г.г., неўсталяваны злачынец, пашкодзіўшы аконную раму, пранік у яго дачны дом у в.Абруб-Беразвецкі, адкуль выкраў: акустычную сістэму «Адэон», газавы балон, часопісны столік. Шкода 500 рублёў. РАСК узбуджаная крымінальная справа па ч. 2 арт. 205 КК (крадзеж);

**31.08.2020** у 11:10 у АДС РАУС паступіла заява грамадзяніна **М.,** жыхара в. Верхняе аб прыцягненні да крымінальнай адказнасці неўсталяванай асобы, якая 23.08.2020 выкрала з банкаўскага рахунку грашовыя сродкі ў памеры 190 даляраў ЗША. Праводзіцца праверка;

**01.09.2020** у 17:02 у АДС РАУС паступіла заява грамадзяніна **Л.,** жыхара г.Глыбокае аб усталяванні і прыцягненні да адказнасці асобы, якая з хлява выкрала два ровары. Шкода 200 рублёў. Праводзіцца праверка;

**02.09.2020** у 13:06 у АДС РАУС паступіла заява грамадзяніна **Ф.,** жыхара Глыбоцкага раёна, аб прыцягненні да ўсталяванай законам адказнасці асобы, якая ў сетцы Інтэрнэт завалодала грашовымі сродкамі ў суме 100 рублёў. Праводзіцца праверка;

За перыяд з 27 жніўня па 2 верасня 2020 года супрацоўнікамі РАУС выяўлена адміністрацыйных правапарушэнняў, якія ўплываюць на грамадскую, маёмасную і дарожную бяспеку:

- з'яўленне ў п'яным выглядзе ў грамадскіх месцах – 12;
- дробнае хуліганства – 5;
- кіраванне транспартным сродкам асобай, якая знаходзіцца ў стане алкагольнага ап'янення – 2;
- кіраванне транспартным сродкам асобай, якая не мае права кіравання – 8;
- парушэнне парадку арганізацыі або правядзення масавага мерапрыемства або пікетавання – 8.

# Родная кухня выдатная



**Уладзімір Шык,**
*журналіст, г. Паставы.*

Адной з важнейшых умоў умацавання здароўя чалавека, падтрымання яго добрага настрою і актыўнага даўгалецця – з’яўляецца правільнае, рацыянальнае харчаванне. Мы ж дагэтуль не поўнасцю ўсведамляем, якая ў нас не толькі прыгожая і мілагучная мова, а таксама і якая выдатная наша нацыянальная кухня. Менавіта лепшымі беларускімі стравамі можна ганарыцца, а тыя ж нашы супы з круп “зацірка” і “крупнік” добра вядомы літоўцам, палякам, рускім і ўкраінцам. Аднолькавая назва ў суседніх народаў і асноўнага посуду для прыгатавання цеста і выпечкі хлеба – дзежа. Для славянскіх народаў і маёй сям’і ў маленстве важнейшым прадуктам харчавання з’яўляўся хлеб.

Упамяці засталося, як мая мама, а таксама родная цёця Броня, бабуля Адэля пяклі яго ў печах вялікімі боханамі, дабаўлялі ў гэты прадукт розныя лісці. З цягам часу ад гэтага занятку мае землякі адмовіліся, бо мясцовыя хлебазаводы істотна нарасцілі аб’ёмы выпечкі і каштаваў бохан адносна танна, ад 14 да 18 капеек. Разам з тым і мне прыйшлося пастаяць у чэргах, калі прадавалі ў пачатку 60-х гадоў мінулага стагоддзя нясмачны хрушчоўскі хлеб з кукурузы. Без хлеба я асабіста не магу зараз ні паабедаць, ні павячэраць і ўвогуле люблю есці пахнучыя корачкі, хоць дагэтуль памятаю, калі маладым намеснікам рэдактара райгазеты ў Верхнядзвінску стаяў за хлебам у чарзе больш гадзіны позна вечарам пасля тэхналагічнай аварыі на мясцовым хлебазаводзе.



Колькі дзесяцігоддзяў прайшло, але для мяне нумарам адзін застаецца гатунак сталічнага хлеба “Водар”. Яго палюбілі і мае бацькі, падчас кожнага прыезду дамоў у гады вучобы на журфаку БДУ заўсёды прывозіў ім некалькі такіх боханаў. З глыбіні стагоддзяў беларусы паважалі печаны ржаны хлеб, а затым у іх рацыёне важнейшае месца заняла бульба, хоць спачатку яна была дэлікатэсам нават у дамах знаці. Тыя, хто харчуецца толькі адной гэтай культурай, ніколі не памруць з голаду. А ўвогуле ўражвае, што з беларускай бульбы, як даказана спецыялістамі, можна прыгатаваць нават 250 розных супоў, салатаў і іншых страў.

Ва ўсім свеце высока ацанілі ўсю вяршыню смаку нашых дранікаў, якія можна фаршыраваць мясам альбо грыбамі. Усе з нас, безумоўна, паспрабавалі і атрымалі вялікае задавальненне пасля ўжывання бульбяной кашы з салам, смажанага бульбянога хвосту, а таксама знакамітых беларускіх бульбяных бабак. Свежыя сабраныя грыбы, падсмажаныя з бульбай, кожны год асабіста не лянуюся рыхтаваць пасля ўдалага ляснога ціхага палявання. І тады нібыта вяртаюся ў далёкую пару дзяцінства, бо мая мама была выдатным кухарам, заўсёды рыхтавала вельмі смачна. А яшчэ, нягледзячы на ўсю сваю стомленасць пасля працы на ферме, пагаджалася некалькі свабодных гадзін аддаць, каб разам са мной пайсці за грыбамі ў лес.

Хоць людзі майго пакалення жылі ў пасляваенны час не надта заможна, але стараліся есці і мясныя прадукты, бо ім прыходзілася шмат напружана працаваць фізічна, а найбольш папулярным было свіное мяса. Пры гэтым нават у часы ваяўнічага атэізму ў нашых сем’ях вытрымлівалі пост. Тагачасныя дзеці з надыходам зімовых халадоў асабліва чакалі, калі будуць калоць выгадаваных кабаноў. Усе ведалі, што неўзабаве мы будзем есці смачныя каўбасы, вантрабянку, крывянку, халадзец, які дагэтуль з задавальненнем любіць рыхтаваць мая жонка.

З надыходам цёплай пары года ў нас любілі варыць розныя стравы са шчаўя, свежых бурачкоў, а таксама наймачнейшыя халаднікі са свежымі агуркамі, зелянінай і смятанай. Я так люблю гэтыя стравы, што з задавальненнем іх сам рыхтую на кухні. У мінулым нельга было пражыць, не меўшы на панадворку адну альбо нават дзве каровы. З іншага боку, якое было задавальненне, калі нас малых клікалі родныя папіць свежага парнога малака. У спёку было прыемна выпіць стакан халоднага малака альбо кефіру, а таксама намазаць на лусту хлеба свежага масла, асабіста выбітага са смятаны. У нашы дні асартымент прадуктаў харчавання ў гандлёвых цэнтрах і шматлікіх магазінах вырас непараўнальна.

Зараз можна купіць усё, былі б толькі грошы. У маленстве мы, сапраўды, не маглі паспрабаваць тых жа бананаў альбо выпіць “Кока Колы”, але ж былі шчаслівыя, бо тая ж газіроўка з Варапаева і піражкі пастаўскіх кулінараў былі натуральнымі і вельмі смачнымі. Беларускаму народу заўсёды былі характэрныя любоў да працы, акуратнасць, а таксама гасціннасць і дабрыня.

## Нацбанк выпускае манеты да 100-годдзя Купалаўскага тэатра

**Нацыянальны банк увосень выпусціць манеты ў гонар 100-годдзя Купалаўскага тэатра:**

— 1100 срэбных манет наміналам 20 рублёў,

— 2499 медна-нікелевых манэт наміналам 1 рубель

Як вядома, асноўная частка трупы тэатра (больш за 40 чалавек) звольнілася на знак салідарнасці з гендырэктарам Паўлам Латушкам і ў якасці пратэсту супраць падзей, якія адбываюцца ў краіне пасля 9 жніўня.У трупе засталося 15 чалавек. Спектаклі адменены да снежня.

*nn.by*

## Мінадукацыі анансавала змены ў фармаце паступлення ў ВНУ з 2022 года

**Міністэрства адукацыі сумесна з іншымі зацікаўленымі прапрацоўвае змяненне фармату ўступнай кампаніі ў ВНУ ў 2022 годзе, паведамляецца на афіцыйным сайце Міністэрства, піша Інтэрфакс.**

«Замест выпускных экзаменаў прадугледжваецца правядзенне нацыянальнага экзамену па двух прадметах, сумешчанага з цэнтралізаваным тэставаннем (ЦТ)», — гаворыцца ў паведамленні.

Акрамя таго, плануецца, што выпускнікі школ будуць здаваць нацыянальны экзамен па рускай/беларускай мове (па выбары), і яшчэ адзін прадмет па выбары (матэматыка, фізіка, замежная мова і іншыя), які з’яўляецца другім профільным прадметам для спецыяльнасці, на якую плануецца паступленне.

Па заканчэнні школы выпускнікі будуць атрымліваць:

- сертыфікаты ЦТ (набраныя балы ЦТ па гэтых прадметах будуць улічвацца шляхам выстаўлення ў атэстат аб агульнай сярэдняй адукацыі);
- атэстат аб агульнай сярэдняй адукацыі з падлічаных у ім сярэднім балам адзнак.

Што тычыцца абітурыентаў, якія скончылі школу ў гэтым годзе, па жаданні яны будуць здаваць дадаткова ЦТ па адным профільным прадмеце (матэматыка, фізіка, замежная мова і іншыя) для пашырэння магчымасці выбару спецыяльнасцяў для паступлення.

*NN.by*

## У жніўні фізасобы і прадпрыемствы выкупілі ў банкаў $1,274 мільярда – гэта рэкорд амаль за 6 год

**Паводле banki24, з чэрвеня Нацбанк з’яўляецца чыстым прадаўцом валюты на біржавым рынку.**

Фізасобы скупілі на чыстай аснове 298,6 млн даляраў наяўнай валюты. Для параўнання: у ліпені — $65,8 млн, а ў жніўні 2019 года беларусы прадалі $159,7 млн наяўнай валюты. Сальда куплі-продажу наяўнай валюты стала горшым за 68 месяцаў — са снежня 2014 года. У снежні-2014 фізасобы купілі $328,1 млн кэша.

На безнаяўным сегменце беларусы скупілі $323,6 млн супраць 149,9 млн USD у ліпені 2020 года і $51,8 млн у жніўні 2019-га. Сальда куплі-продажу безнаяўнай валюты таксама з’яўляецца горшым за 68 месяцаў. У снежні-2014 гэты паказчык быў роўны $573,5 млн.

У цэлым фізасобы скупілі за жнівень $622,2 млн супраць куплі V215,6 млн USD у ліпені і чыстага продажу $107,9 млн у жніўні 2019 года. Гэты паказчык — горшы за 68 месяцаў.

У жніўні прадпрыемствы-рэзідэнты скупілі ў банкаў $651,5 млн. У ліпені ў іх быў чысты продаж валюты на $53,5 млн, у жніўні-2019 — чысты продаж на $145,6 млн. Такога попыту на валюту ў прадпрыемстваў-рэзідэнтаў не было са снежня 2010 года — 116 месяцаў запар. У снежні-2010 чысты попыт дасягаў $1,451 млрд.

У цэлым прадпрыемствы-рэзідэнты і насельніцтва выкупілі ў банкаў $1,274 млрд. У ліпені чыстая купля складала $162,1 млн, у жніўні 2019 года адзначалася чысты продаж на $253,5 млн. Жнівеньскае сальда куплі-продажу – горшае за 68 месяцаў.

*NN.by*

## Латвія звярнулася ў IIHF з лістом пра нежаданне праводзіць хакейны чэмпіянат разам з Беларуссю

**Урад Латвіі звярнуўся ў Міжнародную федэрацыю хакея (IIHF) з лістом, у якім выказаў просьбу правесці чэмпіянат свету па хакеі 2021 года з іншай краінай замест Беларусі, піша Skaties.**




«Урад Латвіі заклікае перадаць статус арганізатара чэмпіянату свету па хакеі 2021 года іншай краіне. Калі сітуацыя ў Беларусі не зменіцца і адпаведныя рашэнні не будуць прынятыя IIHF, урад Латвіі адкліча гарантыі на арганізацыю чэмпіянату свету па хакеі 2021 года», — гаворыцца ў тэксце ліста.

Федэрацыя хакея Беларусі ў канцы жніўня заявіла, што краіна пры неабходнасці можа самастойна правесці турнір.

Чэмпіянат свету павінен прайсці ў Рызе і Мінску з 21 мая па 6 чэрвеня.

*NN.by*

## У Беларусі выздаравелі і выпісаны 71510 пацыентаў з COVID-19

У Беларусі на 4 верасня выздаравелі і выпісаны 71 510 пацыентаў, у якіх раней быў пацверджаны дыягназ COVID-19. Аб гэтым БЕЛТА паведамілі ў прэс-службе Міністэрства аховы здароўя.

Зарэгістраваны 72 485 чалавек са станоўчым тэстам на COVID-19. Усяго праведзена 1 564 458 тэстаў.

За ўвесь перыяд распаўсюджвання інфекцыі на тэрыторыі краіны памёр 701 пацыент з шэрагам хранічных захворванняў з выяўленай каранавіруснай інфекцыяй.

*БелТА.*

# Тыдзень таму пад лініяй электраперадач згарэў самазвал. Кіроўца паспеў пакінуць аўтамабіль

## Аб захаванні мер бяспекі пры вытворчасці работ у ахоўных зонах ЛЭП

**А. С. Крывёнак,** *дзяржаўны інспектар па энергетычным і газавым наглядзе.*

**Штогод па прычыне парушэння «Правіл аховы электрычных сетак» у рэспубліцы адбываюцца няшчасныя выпадкі.**

Так, на аб'екце «Пасёлак Заазёрны» Салігорскага раёна трактарыст дзяржаўнага ўнітарнага прадпрыемства «Салігорскае ПМС» праводзіў мантаж жалезабетонных пліт ПП-10/15 у ахоўнай зоне ВЛ - 10 000 Вольт Салігорскага РЭС. У выніку набліжэння на недапушчальную адлегласць да правадоў ВЛ-10 кВ стралы крана-маніпулятара, трактарыст быў смяротна паражоны электрычным токам.

**01.09.2020** г. пры правядзенні разгрузных работ па выгрузцы пяску (уздыме кузава) кіроўца самазвала будаўнічага трэсту №14 г. Гомеля пад правадамі ВЛ-10кВ дапусціў набліжэнне і абрыў правадоў, пасля чаго адбылося ўзгаранне аўтамабіля, кіроўца пакінуў аўтамабіль.

Работы ў ахоўнай зоне ліній электраперадач патрабуюць асаблівай асцярожнасці. Правіламі ўсталявана кола асноўных метадаў аховы ліній электраперадач, у які ўваходзяць адвод зямельных участкаў, усталяванне ахоўных зон і мінімальна-магчымых адлегласцяў да будынкаў, збудаванняў, зямной і воднай паверхні, устройства прасек у лясных масівах і зялёных насаджэннях, забарона вытворчасці работ, якія могуць прывесці да пашкоджанняў электрычных сетак.

При выкананні работ у ахоўнай зоне ВЛ любога напружання абавязкова няўхільнае выкананне патрабаванняў «Правіл аховы электрычных сетак да і вышэй 1000В».

Катэгарычна забаронена праводзіць працы ў ахоўных зонах ліній электраперадач без пісьмовага дазволу энергазабеспячальнай арганізацыі. Таксама там забаронена будаўніцтва, рэканструкцыя ці знос любых будынкаў і збудаванняў; выкананне пагрузачна-разгрузачных работ любога віду.Таксама ў ахоўных зонах паветраных і кабельных ліній электраперадач забараняецца арганізацыя ўсякага роду звалак; складаванне будматэрыялаў, складаванне прадукцыі сельскагаспадарчага прызначэння і развядзенне вогнішчаў; абсталяванне стаянак усіх відаў машын і механізмаў.



Згодна з арт. 20.3 Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях

1. Парушэнне правілаў аховы электрычных сетак Рэспублікі Беларусь – цягне папярэджанне або накладанне штрафу ў памеры да дваццаці базавых велічынь, на індывідуальнага прадпрымальніка – папярэджанне або накладанне штрафу ў памеры да пяцідзесяці базавых велічынь, а на юрыдычную асобу – папярэджанне або накладанне штрафу ў памеры да дзвюхсот базавых велічынь.

2. Парушэнне правілаў аховы электрычных сетак Рэспублікі Беларусь, якое выклікала пашкоджанне электрычных сетак або перапынак у забеспячэнні спажыўцоў электрычнай энергіяй або нанясенне іншай шкоды, – цягне накладанне штрафу ў памеры ад дваццаці да пяцідзесяці базавых велічынь, на індывідуальнага прадпрымальніка – ад дваццаці да ста базавых велічынь, а на юрыдычную асобу – да пяцісот базавых велічынь.

# Больш за 125,9 мільёна даляраў наяўнымі скупілі жыхары Віцебшчыны за лета, попыт на валюту вырас у некалькі разоў

**Попыт насельніцтва Віцебскай вобласці на замежную валюту значна ўзрос-толькі за лета людзі набылі наяўнасць на 125 900 000 даляраў у эквіваленце.**

У паведамленні гарвыканкама адзначаецца, што павышаны попыт на замежную валюту ў Беларусі назіраецца з прыкладна з канца ліпеня. Пры гэтым заяўляецца, цытуем, што фундаментальных фактараў, якія б абумоўлівалі бягучую дынаміку курсу, акрамя высокага ўзроўню дэвальвацыйных чаканняў, няма.

Аднак у параўнанні з красавіком, калі насельніцтва набыло наяўнай СКВ на 22 200 000 даляраў ЗША ў эквіваленце, у жніўні попыт на валюту вырас больш, чым у два разы — за няпоўны апошні месяц лета скупілі 49 700 000 даляраў ЗША.

Усяго ж з 1 чэрвеня па 25 жніўня насельніцтвам Віцебшчыны было набыта наяўнай валюты на 125 900 000 даляраў ЗША ў эквіваленце (у чэрвені — 33 500 000, у ліпені — 43 700 000, за 25 дзён жніўня – 49 700 000).

У красавіку жыхары Віцебскай вобласці купілі 22 200 000 даляраў ЗША, а ў траўні — 26 600 000. На жаль, дадзеныя за сакавік, калі ў Беларусі назіраўся пік попыту на СКВ, дадзены па нашым рэгіёне не прыводзяцца.

Такім чынам, толькі з пяць няпоўных месяцаў 2020 года ў Віцебскай вобласці фізічныя асобы набылі наяўнай валюты на 175 700 000 даляраў ЗША ў эквіваленце.

Узніклыя праблемы з адсутнасцю наяўнай валюты ў абменных пунктах і банках у гарвыканкаме называюць тэхнічнымі і тлумачаць тым, што банкноты трэба заказваць і прывозіць з-за мяжы.

Між тым з пачатку года курс даляра ЗША па стаўленні да беларускага рубля вырас больш, чым на 55 капеек, што складае 26,3%.

*Сяржук Серабро*



## МНС інфармуе
**на 07.09.2020 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 597;
Гібель людзей – 69, з іх дзяцей няма;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 18
Гібель людзей – 3, з іх дзяцей няма

У **2019** годзе ў раёна адбылося **37** пажараў, на якіх загінула **6** чалавек.
За **2016 год** у раёне адбылося **20** пажараў, на якіх загінула **6** чалавек.
За **2015 год** у раёне адбылося **36** пажараў, на якіх загінула **3** чалавекі.




# ЕЗ выдзеліць €400 мільёнаў для глабальнай ініцыятывы даступнасці вакцыны ад каранавіруса

**ЕЗ выдзеліць 400 млн еўраў у форме гарантый для глабальнай ініцыятывы ў даступнасці вакцыны ад каранавіруса.**

Як піша «Еўрапейская праўда», пра гэта сёння абвясцілі ў Еўракамісіі.

Гаворка ідзе пра механізм COVAX (COVID-19 Vaccine Global Access Facility) - супольную ініцыятыву Глабальнага альянсу што да вакцын і імунізацыі (Gavi), кааліцыі ў інавацыях для эпідэмічнай гатоўнасці (CEPI) і Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, заснаваную ў канцы красавіка 2020 года. Яе мэта - паскорыць распрацоўку і выраб вакцын ад новага каранавіруса і забяспечыць яго даступнасць для ўсіх краін свету.

«Сёння Еўракамісія анансуе ўнёсак у суме 400 млн еўраў для COVAX для супрацоўніцтва на набыццё будучых вакцын для краін з нізкім і сярэднім прыбыткам. Гэта наблізіць нас да агульнай мэты - разам пераадолець вірус», - заявіла прэзідэнт Еўракамісіі Урсула фон дэр Ляен.

Падрабязныя ўмовы для ўнёску ЕЗ паведамяць найбліжэйшым часам.

Урсула фон дэр Ляен паведаміла таксама, што ў рамках глабальнага марафону для збору сродкаў на распрацоўку вакцыны ад каранавіруса, ініцыяванага Еўракамісіяй у траўні, сабралі ўжо амаль 16 млрд еўраў.

На мінулым тыдні Еўракамісія фінальна падпісала першае пагадненне аб закупцы 300 млн доз будучай вакцыны ад каранавіруса ў распрацоўніка AstraZeneca.

*Паводле «Еўрапейская праўда».*

# Пастаўскі райвыканкам купляе кампутар з гульнявой відэакартай амаль за $ 2000

**Пастаўскі райвыканкам праводзіць закупку з адной крыніцы персанальнай электроннай вылічальнай машыны арыентыровачным коштам 5000 рублёў.**

Паводле тэхнічнага задання закупляецца магутны камп'ютар з 27-цалевым дысплеем, васьміядзерным працэсарам Intel Core i7-9700K, гульнявой відэакартай Gigabyte GeForce GTX 1050 Ti D5, 4-тэрабайтным жорсткім дыскам і паўтэрабайтным SSD, а таксама блок бесперабойнага жыўлення для яго.

ПЭВМ павінны паставіць Пастаўскім чыноўнікам да 16 верасня. Фінансуецца закупка кампутара за кошт бюджэтных сродкаў.

Характэрна, што ў назве файлаў дакументацыі закупкі змяшчаецца абрэвіятура «ROVD». З гэтага можна зрабіць здагадку, што тэхніка набываецца для мясцовай міліцыі.

*ННВ.*

